© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1561) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 13 КРАСАВІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл



Удзячнасць за родныя песні. Старшыня ГП БГКТ д-р А. Баршчэўскі ўручае кветкі ўдзельнікам канцэрта 30-годдзя.

# КАНЦЭРТ 30-ГОДДЗЯ

## ПЕРШЫ ГОЛАС

Вялікі канцэрт лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня-86“ адбыўся на другі дзень пасля фінальнага агляду, 2 сакавіка, нядзелю. Быў гэта вялікі і каляровы паказ творчасці, таленту і сілы нашых вакальных калектываў, з якіх кожны, рыхтуючыся цэлы год часу, мог у конкурсе прадставіць толькі дзве песні. У выніку, аднак, гляньце, якое багацце выйшла, калі ў нядзельным канцэрце Сяргей Лукашук з асобных калектываў і груп склаў цэласную трохгадзінную праграму, з якой можна выступаць на любой сцэне Еўропы.

Хочацца звярнуць асаблівую ўвагу на два бакі гэтага канцэрта. Першае — што шчаслівымі былі тыя, хто змог купіць білет і ўвайсці ў залу, каму проста ўдалося. Маса народу з жалем адыходзіла ад кінатэатра „Форум“, не могучы ўціснуцца нават на стаячыя месцы. Паявіліся нервовасць, нават слёзы, што каса стаяла пустая. А гэта паказвае на велізарнае запатрабаванне 260-тысячнага Беластока на такія імпрэзы і сведчыць аб вялікіх рэзервах у дзейнасці БГКТ.

З другога боку — уся праца калектываў ідзе на тое, каб магчы пастаянна служыць людзям, каб спяваць усім, хто хоча слухаць, каму дарагая сувязь з беларускай песняй.

Хоць многія калектывы выступалі два дні падрад, у суботу на фіналах і ў нядзелю на канцэрце лаўрэатаў, не мелі яны начлегу ў Беластоку. Пасля цяжкага дня ўсе раз'ехаліся, часта за 100 і больш кіламетраў, — дахаты. А на другі дзень раненька зноў, гайда, у Беласток. Рознымі сродкамі транспарту, часта з уласнай кішэні аплачвалі дарогу. Але як не дзіўна, людзі не наракалі, наадварот — былі задаволены, што ізноў могуць спяваць.

Пасля канцэрта я сустрэла многіх, як спяшаліся на аўтобус, на поезд, — з торбамі ў руках, у якіх вазілі свае народныя ўборы і тэрмасы з чаем, якім у перапынку запівалі канапкі, прывезеныя з хаты. Гэтая адданасць справе не можа не хваляваць, не можа не выклікаць глыбокай пашаны да нашых народных спевакоў.

І якімі ж словамі можна перадаць той канцэрт лаўрэатаў тым, хто не змог быць у запоўненым зале „Форума“ ў Беластоку? Як пераказаць тую рухлівую сцэну, дзе, як у калейдаскопе, змяняліся карціны: адзін за адным выходзілі калектывы, салісты, пераважна ў каляровых народных уборах — дакладна выгладжаных, прыгожых — некаторыя ў вельмі багатых, іншыя — у скрамнейшых. Хочацца сказаць, што гэта была не толькі дэманстрацыя песні і яе выканаўцаў, але і народных беларускіх убораў, з багаццем кройкі і вышыўкі, хусткамі-шаляноўкамі і рознымі галаўнымі вяночкамі. Радавалі вока і сучасныя „крэацыі“, і старыя-старыя саяны, блузкі, фартушкі, вышываныя яшчэ прабабулямі. Адным словам — паказ моды!

А як перадаць успрынятую залай, якая пульсавала ў адзін

(Працяг на стар. 4)




## А ДЗЕ АБАВЯЗКІ ПЕРАД РОДНЫМ?..

Прачытаўшы інтэрв'ю М. Гайдука з Я. Зенюкам — намеснікам старшыні Ваяводскай рады ПРОН („Ніва“ № 6/1552) ад 9.2.86 г. — „З думкай пра нас, беларусаў“), я ўстрывожыўся. Ці сапраўды гміны, дзе ў большасці жывуць беларусы, адстаюць у грамадска-гаспадарчым развіцці? І, каб дакладней спазнаць праблему, мусіў я азнаёміцца са зместам цытаванай Я. Зенюкам брашуры, якую падрыхтаваў Асяродак навуковых даследаванняў у Беластоку. Даследчыкі разглядаюць у ёй 24 гміны Беластоцкага ваяводства, называючы іх „усходнім абшарам“.

Ну, дык што характэрна нашым гмінам? У канцы 1983 года жыло ў іх 33,4 прац. насельніцтва ваяводства (прыблізна каля 200 тыс. чалавек). Пасля вайны ўвесь час ішла міграцыя з вёсак у гарады. Сённяшняя колькасць насельніцтва — гэта 77 прац. колькасці з 1946 года ў гэтых гмінах. У Польшчы нідзе ў такой ступені гэтая з'ява не выступала. Прыблізна каля 85 тыс. чалавек з „усходняга абшару“ гэта сённяшнія жыхары Беластока (няўжо гэтак многа беластачан мае беларускае паходжанне?).

Што яшчэ ўласціва насельніцтву беларускіх гмін? Колькасць дзяцей і моладзі да 17 гадоў складае каля 26 прац., а людзей старых — звыш 20 прац. Паралельныя лічбы ў заходняй частцы ваяводства — 30 прац. і 18 прац. Ну, і яшчэ надта відавочны недахоп жанчын ва ўзросце 20-24 гадоў (64 жанчыны на 100 мужчын).

Разглядаць сельскую гаспадарку пачнем ад натуральных умоў. Глебаў з невялікай колькасцю фосфару і калію тут больш, як у другіх рэгіёнах Польшчы. Кіслых глеб вельмі многа, звыш 74 прац. Чаму? Таксама, відаць, меліяраванне тут недастатковае.

Статыстычна, па колькасці грамадзян, менеў у нас машын, лячэбніц, пунктаў продажу штучнага ўгнаення, паліва, майстэрняў кавальскіх, слесарскіх, цяслярскіх, муляскіх. Колькасць паслуг для сялян з гадамі змяншаецца. Затое крыху больш тут, як у заходняй Беласточчыне, пунктаў, якія скупляюць сельскагаспадарчыя прадукты. Гэта нейк дзіўна... Лік сялянскіх гаспадарак, якія маюць водапровад, усяго толькі 7,3 прац., у тым часе ў краіне — 32 прац. Найгорш з водаправодамі

(Працяг на стар. 3)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Погляды

# ПРАЗ ГОД ЗНОЎ ПРЫЙДУ

Дакладна ў чацвер 20 лютага стала я жыхаркай палаты № 7 радзільнай бальніцы ў З. У зале апрача мяне было тры жанчыны. Вера з А., Эва з Т. і Гражына з С. Гражына дзеўкай нарадзіла дачку і нізашто не хацела забраць яе дамоў. Дома — бацька, мачаха і малодшая сястра.

— Чаму вы не хочаце ўзяць дзіця дадому? — пыталіся лекары, сёстры, жанчыны.

— Хачу, — адказвала яна заўсёды, — але мой стары не хоча. Ён і мяне забраць не хоча. Вось ужо колькі ляжу.

Высветлілася, што яна не застрахавана, а сутачнае прабыванне ў бальніцы цяпер каштуе 2000 зл. Яе бацька мусіў у гміне аформіць сялянскую страхоўку. Гражына штодзённа па некалькі разоў тэлефанавала да бацькі і настойвала, каб як мага хутчэй прыязджаў і забіраў адсюль.

— Ну, ведаеце, — гаварыла нам, — калі ён не прыедзе ў пятніцу, то дам яму! Як толькі заеду дадому, то дам мачасе і старому. Няхай яны не думаюць, што буду працаваць на гектарах. О, не! Буду толькі ляжаць у ложку, а мачаха няхай працуе, як вол. Малую аддам у дзіцячы дом. Сама адпачну, а праз год прыйду сюды, каб нарадзіць сына. Малую праз два гады забяру. Сына таксама, як толькі падрасце, забяру з дзіцячага дома.

Паглядзела я на яе, паслухала і пытаю ў жанчын, ці яна хаця нармальная.

— Не зусім, — чую ў адказ. — Пяць гадоў таму назад памерла яе маці, і дзяўчына так пераняласяя, што аж розум памяшаўся. Цяпер яна ні дурная, ні разумная. Учора нам гаварыла, што дакладна не ведае, хто бацька яе дзіцяці. Гаварыла нам, што пераспалася з мужчынамі толькі тры разы і зацяжарыла, а яе сястра спала 15 разоў і хоць бы што! Раз яе „на хама“ ўзялі, а два разы сама пайшла ў ложак з нейкім чарнявым вусачом.

— Навошта ж яна радзіла, калі цяпер браць не хоча? — не магла зразумець я.

— Гэтага ніхто не ведае і не разумее, — чую ў адказ.

Прынясуць карміць дзяцей — Гражына цалуе малую, туліць да сябе. Усё паўтарае:

— Багуська мая, дачушка.

„Не, — думаю, — не аддасць яна малой. Напэўна забярэ“. Але дзе там! Пакінула, нягодніца. Толькі не ведала, якое імя даць малой.

— Як яе запісаць? — часта паўтарала ў дзень выпісу. — Мне падабаецца Багуська, а сястра гаварыла, што вельмі прыгожае імя Ізаўра. Што тут рабіць?

— Імя ніякага значэння не мае, — кажу ёй. — Ты лепш дзіця вазьмі.

— Што? Мой стары не хоча. Два гады пабудзе ў дзіцячым доме — і забяру. Тады стары нічога не скажа.

Не змаглі мы яе пераканаць, што дзіця, прабыўшы два гады ў доме малога дзіцяці, стане як чужое. Многа трэба будзе працы і проста анельскай цярплівасці, каб яго асвоіць.

— Ты толькі падумай, — гаварыла ёй Е. — Мая сяброўка таксама дзеўкай нарадзіла дзіця. Сям'я ўвогуле яе не схацела ведаць. Яна не мела дзе жыць і аддала малога ў дзіцячы дом, але не рассталася з ім. Працавала ў кухні, часта была з малым. Карміла яго грудзьмі. Адным словам, разлучала іх толькі праца. Збілася дзяўчына на грошы. Купіла трошкі мэблі, адзежы, абутку. Забрала малога да сябе і змяніла работу. Вось гэта называецца маці.

— А што я зраблю, калі стары не хо-

(Працяг на стар. 5)



## Весткі з Беларусі

### ДЭЛЕГАЦЫЯ З ФРГ

У Мінску знаходзіліся прэзідэнт федэрацыі таварыства „ФРГ-СССР“, дэпутат бундэстага Д. Шперлінг і генеральны сакратар федэрацыі Х. Лутман. Яны наведалі Беларусь у сувязі з правядзеннем у ФРГ у 1987 годзе Дзён Савецкага Саюза на прыкладзе Беларусі.

Дэлегацыя сустрэлася з кіраўнікамі Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. У ходзе гутаркі былі абмеркаваны некаторыя пытанні арганізацыі Дзён. ФРГ наведае беларуская дэлегацыя. У заходнегерманскіх гарадах прадугледжваецца дэманстрацыя фотавыставак аб Беларусі і яе людзях, экспазіцый твораў мастакоў, вырабаў народных промыслаў. З канцэртамі выступіць фальклорны ансамбль.

У сваю чаргу дасягнута дамоўленасць аб дэманстрацыі сёлета ў верасні ў Мінску і Брэсце выстаўкі „Погляд на жыццё ў ФРГ“, арганізацыі выступленняў музычнага ансамбля з ФРГ.

Дэлегацыю прыняў намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч.

### ДЛЯ ЖЫХАРОЎ ПАЛЕССЯ

Круглы год будзе пастаўляць гародніну жыхарам Мазыра і навакольных раённых цэнтраў Палесся Мазырскі цяплічны камбінат, будаўніцтва якога пачалося недалёка ад прамысловага цэнтра побач з пасёлкам Крынічны.

Агарод пад шклом зойме плошчу шэсць гектараў і будзе адпраўляць у гандлёвую сетку штогод каля 1 800 тон свежых агуркоў, памідораў, зялёнай цыбулі, пятрушкі, сельдэрэя. Для вырошчвання гародніны, зразумела, спатрэбіцца многа цяпла. Яго паставіць агароднікам Мазырская цеплаэлектрацэнтраль.

Першую чаргу камбіната будаўнікі абяцаюць здаць у эксплуатацыю ў 1987 годзе.

### ЗАМЕННІКІ МАЛАКА

Беларускія вучоныя распрацавалі прынцыпова новую тэхналогію вытворчасці цэлай гамы замннікаў цэльнага малака.

Першы з заменнікаў — „Бія-ЗЦМ“ ужо выпускаецца ў прамысловых маштабах на Валожынскім масласырзаводзе. У саўгасе „Цяпліводы“ Баранавіцкага раёна будаўнікі заканчваюць узвядзенне цэха, дзе ўпершыню ў рэспубліцы будзе выпрацоўвацца другая навінка мінскіх вучоных, якая атрымала назву „Прамікс“. Адначасова канструктары і праекціроўшчыкі інстытута „Гіпрамясамалпром“ працуюць над праектам першага цэха па выпуску „Правілакту“ — цэх намечана адкрыць пры Хойніцкім сыркамбінаце.

### СПОРТ

Беларускі штангіст Леанід Тараненка заваяваў сярэбраны медаль на асабістым чэмпіянаце СССР і Кубку Дружбы, паказаўшы ў суме двух рухаў 422,5 кілаграма. Выступаў ён у вагавай катэгорыі звыш 110 кілаграмаў. Яшчэ адзін беларускі штангіст — Аляксандр Барысёнак аказаўся трэцім прызёрам у вагавай катэгорыі да 110 кілаграмаў.

Мінчанін чэмпіён Еўропы Камандар Маджыдаў выйшаў пераможцам буйнога міжнароднага турніра па класічнай барацьбе, які праходзіў у прыгарадзе Парыжа.

# Беларускі каляндар - 86

„Беларускі каляндар на 1986 год“, як і папярэднія календары, шмат у чым цікавы. Перш за ўсё ёсць у ім календарыум з адзначанымі важнейшымі святамі, дзяржаўнымі і царкоўнымі, а таксама датамі гістарычных падзей з асаблівым улікам беларускай культуры. Гаспадыняў павінны зацікавіць парады па кулінарыі і народнай медыцыне.

„Як жа ж мы, беларусы на Падляшшы, мала ведаем пра сваю мінуўшчыну!“ — такім сцверджаннем пачынае Мікола Гайдук нарыс „Нашыя продкі“. Гэта напэўна вартае ўвагі чытанне, дзякуючы якому ўзбагацяцца нашыя гістарычныя веды пра сябе, без якіх не можа быць паўнавартаснай нацыянальнай свядомасці. Выдатна дапаўняе гэта артыкул Антона Мірановіча „Паходжанне назвы Беларусь“.

Пра тое, адкуль узяўся хлеб у нашай цывілізацыі, займальна тлумачыць Мікола Лобач, этнограф і даследчык народнай культуры. Энтузіясты мінулага Бельскай зямлі маюць магчымасць прачытаць месцамі сенсацыйны тэкст „Па слядах рукапіснага этнаграфічнага апісання Бельскага павета свяшчэнніка Келясціна Брэна з 50-х гадоў XIX ст.“ Яшчэ раз выступае той жа Мірановіч, на гэты раз з невялікім нарысам „Трывалыя страты для культуры“, у якім разглядае сумную нам з'яву знішчэння помнікаў беларускай матэрыяльнай культуры ў нашым рэгіёне. Добра чытаюцца ўспаміны дзеяча БГКТ Кастуся Масальскага „Усё мае свой пачатак“, як і рэфлексіі дырэктара Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, Аляксандра Іванюка „Не забывай ніколі родны кут“. „Пераклічка“ Георгія Валкавыцкага дае ўяўленне пра выдатных людзей БГКТ, якія ўжо адыйшлі ад нас, жывых. Савецкія аўтары Мікола Іваноў і Янка Лісоўскі расказваюць у сваіх нарысах шмат новага пра Змітрака Бядулю і Адама Міцкевіча. „Каляндар“ закончаны падборкай твораў „белавежцаў“.

Можна набыць яго ў школах з беларускай мовай, у аддзелах БГКТ і ў „Ніве“, а таксама выпісаць сабе за паштовым залічэннем з Галоўнага праўлення БГКТ 15-062, Białystok, ul. Warszawska 11. Цана 120 зл. (ся)

## На Захадзе без перамен?

### ХАТНІЯ ТЫРАНЫ

Зверствы мужаў у сям'і сталі масавай з'явай у, здавалася б, цывілізаваных і высокаразвітых краінах. Прычым буяняць у сябе дома зусім не толькі алкаголікі ці дэкласаваныя элементы, а найчасцей людзі знешне цалкам прыстойныя, адукаваныя, паважаныя ў грамадстве. Апынуўшыся ва ўласным доме, яны тут жа мяняюць аблічча, пускаюць у ход кулакі па любой прычыне — не спадабалася снеданне, адарваўся ад кашулі гузік, надакучыў плач дзіцяці, яны катуюць на вачах дзяцей маці, на вачах маці — дзяцей. Гэтыя выпадкі нячаста даводзяцца да ведама публічнасці. Многія ахвяры гадамі, а то і ўсё жыццё скрываюць іх ад акружэння — з фальшывага сораму, боязі разбіць сям'ю, матэрыяльнай залежнасці ці дарэмнай надзеі на „перамены на лепшае“. А галоўнае, не ведаючы, куды звярнуцца за дапамогай.

У апошнія гады па ініцыятыве грамадскасці шэрагу заходнееўрапейскіх краін пачалі ствараца гэтак званыя „жаночыя дамы“, дзе ахвяры хатніх тыранаў знаходзяць часовае прыстанішча. Як расказвае заходнегерманскі тыднёвік „Цайт“, умовы жыцця ў гэтых дамах цалкам зносныя, а галоўнае — жанчыны, якія гадамі цярпелі паніжэнне і пабоі, знаходзяць тут адносны душэўны спакой і падтрымку. Яны дапамагаюць адна другой у доглядзе за дзецьмі, падрыхтоўцы стравы, у пошуках пастаяннага жылля і працы — большасць з іх па намаганню мужаў даўно страцілі самастойны заработак.

У ФРГ ужо існуе каля 90 падобных „дамоў-прыстанішч“, але гэтага недастаткова, каб задаволіць усіх (у краіне, па арыентыровачных падліках, катуецца ў сям'і кожны год 4 мільёны жанчын).

Дзяржава праяўляе поўную абыякавасць да гэтага пытання, ухіляецца нават ад фінансавай дапамогі „жаночым дамам“, якія існуюць толькі дзякуючы падтрымцы дабрачынных арганізацый і некаторых муніцыпалітэтаў. Ні самім мучаніцам, ні іх дзецям не даводзіцца разлічваць на дапамогу паліцыі і органаў правасуддзя.

Вось і працягваюць бяскарна бясчынстваваць хатнія тыраны, а на дзвярах „жаночых дамоў“ можна ўбачыць лісткі з накрэмзанымі на іх пагрозамі тыпу: „Не святкуй перамогу, усё роўна я цябе заб'ю!“ І гэта не пустыя словы.

Л. Г.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# КАНЦЭРТ 30-ГОДДЗЯ



Спявае славуты беластоцкі „Звон" (першае месца сярод малых калектываў у катэгорыі апрацаванай народнай песні ў конкурсе „Беларуская песня-86").

(Працяг са стар. 1)

рытм са сцэнай? Я даўно не адчувала такога заангажавання публікі, такой высокай пачуццёвай тэмпературы. Калі б не настойлівасць вядучых канцэрт (Валі Ласкевіч, якая знайшла вартага сябе партнёра — элегантнага Мікалая Бушко), бравам і бісам не было б канца. Дысцыпліна канцэрта была аднак жалезная і канферансье прытрымліваліся яе сурова.

Як людзі прагнуць беларускай песні, сведчылі шматлікія магнітафоны ў руках гледачоў. Ніколі дагэтуль людзі так масава не запісвалі конкурсных песень на ўсіх раённых і цэнтральным аглядах, як у гэтым годзе. Гэтая самастойная „прадукцыя" касет можа толькі радаваць, яна хоць у нейкай меры запаўняе рэпертуарныя прабелы. Бо колькі не гаварылася, не пісалася ў нас пра касеты, адпаведныя ўстановы і арганізацыі ніяк не могуць гэтым заняцца, хоць бы, напрыклад, найграць абсалютна бясспорныя па выканаўчаму ўзроўню „Васілёчкі" ці Дубіны не гаворачы ўжо пра шматлікія народныя, вясковыя калектывы, хоць зборную касету іх на пачатак трэба было б выдаць. Усё гэта — даходны бізнес і чаму яго не робяць, цяжка зразумець...

Гэтыя заўвагі хочацца сказаць пры нагодзе (а можа, паможа?). Вернемся аднак у зал, які кіпіць радасцю, накаляецца. А на сцэне ўсё новыя людзі, усё дасканальшыя калектывы, лепшае гучанне. Бо рэжысёр і яго памочнікі так склалі праграму, што яна мела ўзыходны характар — ад адзначаных і трэціх месцаў да першых. Але ці зала вытрымае такую нагрузку? Вытрымала. І пасля апошняй песні ў выкананні мужчынскага актэта з Гайнаўкі ў адзін голас дамагалася яе паўтарэння.

Потым пачаўся найпрыгажэйшы карагод: усе выканаўцы двума струменямі з супрацьлеглых бакоў лёгкім крокам папльылі на сцэну. Ішлі, ішлі, станавіліся; вялікая сцэна пераўтварылася ў каляровы букет, а публіка, стоячы ўжо, апладзіравала, апладзіравала. І раптам з паўтары сотні вуснаў з той сцэны сарвалася родная песня — „Люблю наш край старонку гэту". Зала на хвіліну прыціхла, рукі апусціліся і ў той жа момант падхапіла песню. Раздаўся гучны супольны спеў. Многія плакалі і на зале, і на сцэне...

Многія з артыстаў казалі мне потым, што такая рэакцыя публікі іх так усхвалявала, што ім здушыла горла, па спіне пабеглі мурашкі, рукі здранцвелі, яны не забудуць гэтага моманту ніколі...

А тым часам у вялікім уздыме сцэна і зала праспявалі тры звароткі: „Люблю наш край", „Люблю народ наш беларускі", „І песню родную люблю я". У канцы адна са старэйшых членаў „Васілёчкаў" высока падняла кошык кветак. Зноў выбухнулі апладысменты. Дзесьці з глыбіні сцэны артысты ціха пачалі адплываць, іх усё меншала і меншала. І вось ужо толькі першы рад адступаецца, дзе хто махае рукой.

А публіка стаіць і апладзіруе. Сцэна апусцела, а людзі заўзята б'юць у далоні, не хочуць разыходзіцца.

А потым у вялікім фае кінатэатра яшчэ доўга стаялі групамі людзі і гаварылі пра ўражанні.

З радасцю і гордасцю канстатую, што адусюль чуецца беларуская мова.

Выходжу на марозную вуліцу: „Сэрца, супакойся, — ад радасці таксама можаш разарвацца..." Высока ўздымаю галаву, як бы ў вялікасці перажытага і я чымсьці заслужылася. І песню родную люблю я — столькі ўсяго.

**Вера Леўчук**



Спеўны Гданьск (вылучэнне сярод малых калектываў у катэгорыі апрацаванай народнай песні ў конкурсе „Беларуская песня-86").



© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



Звонкія галасы з Орлі (трэцяе месца сярод вялікіх калектываў у катэгорыі сучаснай песні ў конкурсе „Беларуская песня-86“).

# І ЛЬЕЦЦА ПЕСНЯ ЗВОНКА

**ДРУГІ ГОЛАС**

Марозік шчыпаў, кусаўся, а сонца было веснавое, вясёлае, тапіла прэлы снег на вуліцы. У гэты нядзельны светлы дзень (2 сакавіка) людзі вышлі пагуляць, папешчыцца сонцам, павесяліцца. Многія накіроўваліся на вуліцу Дзяржынскага, у кінатэатр „Форум“, на канцэрт лаўрэатаў агляду „Беларуская песня '86“. Многа іх таўпілася ад 12 гадзіны пад дзвярыма, і многія адыйшлі з пустымі рукамі. Білеты на нядзельны канцэрт былі даўно распрададзены яшчэ ў БГКТ, а людзі ўсё ішлі, ішлі, прасілі пусціць іх паслухаць песні.

Вялікая зала кінатэатра была даслоўна бітком набіта. Людзі сталі 3 гадзіны і ніхто не выйшаў. Спевакоў і добрых песень было многа — хапіла б напэўна на некалькі канцэртаў. Зацікаўленне слухачоў — беларусаў і сімпатыкаў прыгожай песні — расце з году ў год і даказвае, як патрэбная гэта песня. Для аб'яднання, для творчай дзейнасці і пошукаў, для эстэтычнага развіцця артыстаў і слухачоў. Для спевакоў родная песня — гэта таксама свята, уцёкі ад цяжкай штодзённшчыны, радасць ад супольнай творчасці, ад паказання сябе, сваёй працы і таленту.

Развіваюцца і дасканаляцца „старыя“ калектывы з Гарадка, Орлі, Беластока, Бельска, Гданьска, Тыневіч, Гайнаўкі, Рыбалаў. Растуць як на дражджах новыя, прыцягваюць у свае рады новых артыстаў, свежыя галасы. Адазваліся Чаромха, Ляўкова. Цешыць, што родная песня ўсё шырэй гучыць і ў маладым асяроддзі, што падхопліваюць яе гукі і магутныя галасы „Звону“ і гайнаўскага хору, і сучасныя інструменты з Бельскага дома культуры, і маладыя галасы Іры Краўчук, Элі Маслоўскай, Багданы Карчэўскага, Марысі Аліфер, Іры Макац, Анкі Гаданчук. Вялікае гэта свята песні! І прыемна, радасна паглядзець: усё больш і больш нас. І пачуць сябе звязаным моцнымі ніцьмі з мінулым. І глядзець у будучыню з аптымізмам, калі на сцэне і сярод гледачоў дзяды, сыны і ўнукі — вечна маладзенькія Люба Гаўрылюк і Юры Налівайка, і маленькі Давідка з мамай, Аляй Дубец. Спяваюць дзяўчаты з Тыневіч і кожны ведае: ведаю я, што беларус. Гэтыя песні нам спявалі ў калысцы, і не загінуць яны ў небыцці, бо іх будуць спяваць нашы дзеці.

Шкада толькі, што ўвесь запал нашых самадзейнікаў накіраваўся цяпер толькі на песню. Памятаем вялікі час драмгурткоў. Чаму цяпер аб іх мала чуем? Або танцавальныя калектывы? Талентаў сярод нас нямала.

Уступіў у нашы рады новы дух, дух аб'яднання і творчасці. Скажам праўду: магчымасці ёсць і сродкі знайшліся б. Усё ў канцы канцоў перш за ўсё залежыць ад саміх людзей і іх арганізацыі. Наша самадзейнасць ужо не аматаршчына, але ёй таксама патрэбна дапамога. Патрэбна больш прафесіяналаў-музыкантаў, танцораў, рэжысёраў, якія не пабаяліся б папрацаваць „у глушы“, паездзіць, весці варштаты з нашымі самадзейнікамі. Не можам жа ўсяго ўзвальваць на фанатыкаў, такіх, як Копа ці Нявінскі, ці чакаць, што ўсё арганізуе Лукашук ці Ласкевіч, а грошы, можа, як тая нябесная манна, сыпнуцца самі. Здаецца мне, што наша арганізацыя таму называецца „арганізацыяй“, што гэта не сукупнасць адзінак, якія самі па сабе існуюць, плацяць складчыны і час ад часу святкуюць нейкае „годдзе“ з большым ці меншым „ура“ і спяваюць сабе на пацеху. Прыйшоў час, калі мы можам і ўмеем паказацца. І многа яшчэ працы і такіх радасных сустрэч перад намі.

**Міра Лукша**
**Фота С. Грынявіцкага**



Выступае Ірына Макац з Беластока (трэцяе месца сярод салістаў у катэгорыі апрацаванай народнай песні ў конкурсе „Беларуская песня-86“).

(Працяг са стар. 2)

## ПРАЗ ГОД ЗНОЎ ПРЫЙДУ

ча? Праз год прыйду, каб сына нарадзіць. Тут так добра. Нічога рабіць не трэба. Есці дадуць, чыстую адзежу. Рай — не ўмірай.

„Ну, — думаю, — не такая ты дурная. Магла б сама дачку гадаваць, а не дзяржава. Толькі, каб табе ўляпіў нехта добра па задніцы. Толькі шкада, што няма каму. Напэўна бацька не наб'е, а мачаха „чужому“ дзіцяці таксама слова не скажа.“

Прыйшла пятніца. У гэты дзень „наша“ Гражына ледзь не бегала па бальнічным калідоры:

— Калі ўжо прыедзе мой стары? Чаму яго яшчэ няма? Што ён сабе думае? Няхай сабе не думае, што я яму дарую! Дам яму, ой, дам!

Урэшце прыехаў бацька, прывёз вопратку. Дзяўчына апранулася ў зале. Адзеўшыся, усміхнулася і развіталася з намі:

— Выздараўлівайце! Я праз год ізноў сюды прыйду!

Сказаўшы гэта, хутка выйшла з залы.

Мы здранцвянелі.

„Колькі ж разоў яна яшчэ будзе радзіць? — думалі ўсе. — Колькі дзяцей не будзе мець ні бацькі, ні маці? Чаму такія дзеці — нічога нікому не вінаватыя — мусяць пакутаваць усё жыццё? То ж яны, бедныя, з самых малых гадоў не будуць ведаць, што такое мацярынская любоў“.

Увечары прыйшла прыбіральшчыца і з цікавасці спытала, ці Гражына забрала дзіця. Калі пачула, што не забрала, то аж пасмутнела.

— Там у Ч. усе такія, — сказала нервова.

— Яна не з Ч. Яна з С.

— А я думала, што з Ч. Вось там ёсць адна такая артыстка. Ужо двое дзяцей нарадзіла і ніводнага не ўзяла. Дзяржава іх гадуе. Цяпер трэцім цяжарная. Зноў пакіне, нягодніца. Такім то трэба, каб далі нейкі ўкол на бясплоднасць. Не было б тады круглых сірат і дзяржава не траціла б грошай на іх гадаванне і выхоўванне. А і мужчыны таксама дурныя. Навошта лезці да такое? А то пакіне дзіця і схаваецца. Цікава, ці грошы свае такі хамула аставіў бы. Напэўна не. Нават за дзесяццю злотымі ўпамянуўся б, а дзіця вось кідае. Не разумею, як можна сваёй крыві адрачыся?..

„Мо і праўда! — падумала я, — вінаватыя мужчыны, але і жанчыны не лепшыя. Калі яна хоча радзіць і задаволена, што будзе радзіць, і нават кажа, калі прыйдзе ізноў радзіць, то чаму не можа гадаваць? Можа! Нічога, што з розумам не зусім у парадку. Дзіця магла б выгадаваць.

Напрыклад, у суседняй вёсцы. Жыла там жанчына, якая ад нараджэння была не цалкам нармальная. Нарадзіла сына, якога сама гадавала. Хлопец рос, як дуб. Быў вельмі прыгожы. Кожная дзяўчына за ім аглядалася. Толькі меў адну адмоўную рысу характару: вельмі любіў піць гарэлку. Доўга не жаніўся.

(Працяг на стар. 7)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# З СУДА

У Ваяводскі суд у Р. паступіла на разбор справа супроць Юстыны С. і Сабіны З. Абедзве яны працавалі касіршамі ў вядомай гандлёвай фірме „Польмазбыт“, якая займаецца продажам аўтамабіляў і запасных частак да іх. Тавар гэты, як вядома, у Польшчы вельмі ж каштоўны, бо часта і паўжыцця трэба патраціць на тое, каб назбіраць, скажам, паўмільёна злотых на „малюха“ або і мільён злотых на „вялікага“ фіята. Такім чынам цераз рукі пані Юстынкі і пані Сабінкі кожны дзень праходзілі неймаверныя для звычайнага чалавека сумы грошай. Здалося ім, што ніхто не заўважыць, калі яны часам ускубнуць на ўласны ўжытак па некалькі дзесяткаў тысяч злотых.

І так бестурботна, за працай у касе прадпрыемства „Польмазбыт“, праходзілі 1983 і 1984 гады. На працягу гэтага часу пані Юстынка „наскубала“ ў сваю ўласную панчоху звыш **двух** мільёнаў злотых, а пані Сабінка — каля **аднаго** мільёна. Прынамсі ў пакражы гэтакіх сум абедзве яны абвінавачваюцца.

Метады іх злачыннай дзейнасці былі настолькі простыя, наколькі і наіўныя. **Яны проста прымалі грошы ад кліентаў сваёй фірмы і прынятыя сумы не рэгістравалі ў дакументацыі касы, як бы яны туды ніколі не паступалі. Хай кліент клапоціцца, думалі, як даказаць, што ён уплаціў даную суму.**

Пані Юстына, хаця і без вышэйшай адукацыі, маючы штодзень справу з грашыма, ведала дасканала, што нельга будаваць трывалай надзеі на раскошную будучыню, абапіраючыся выключна на польскую залатоўку, якая ўсё яшчэ не можа вырвацца з інфляцыі. Вышэй цаніла яна матэрыяльныя вартасці. Было ўстаноўлена, што пані Юстына з'яўляецца саўласніцай аж дзвюх „нерухомасцяў“ у Р. Пра матэрыяльнае становішча яе сяброўкі, пані Сабіны, судовы бюлетэнь, на жаль, нічога не паведамляе. Вядома затое бясспрэчна, што пасля судовага разбору іх справы значная частка гэтай маёмасці пяройдзе ў фонд дзяржавы ў якасці штрафаў. Палітыка пакаранняў гаспадарчых злачынстваў у нас цяпер устанавілася такая, каб „біць па кішэні“, каб дабро, нажытае нелегальна, не з працы рук, станавілася косцю ў горле розным зладзеям і камбінатарам.

(Паводле „Інфармацыйнага бюлетэня“ за сакавік 1986 г. — вр)

# З МАКАМ — АСЦЯРОЖНА!

Спрадвеку прывыклі мы да маку. Калі зацвітаў ён у агародчыку, дык аж душа радавалася.

Цяпер, аднак, з макам, як і з самагонкай, трэба асцерагацца. На аснове сеймавай пастановы ад 31 студзеня 1985 года аб барацьбе з наркаманіяй, за самавольнае вырошчванне маку пагражаюць суровыя пакаранні, нават да двух гадоў турэмнага зняволення.

У Беластоцкім ваяводстве не вядзецца кантрактацыя маку і канапель, а гэта абазначае, што кожны селянін ці іншы ўласнік зямельнага ўчастка ў вёсцы і ў горадзе можа на свае патрэбы пасеяць дзялянку маку, **не большую як у 20 квадратных метраў**. Гэта загончык, прыкладна, шырынёю ў 2 метры і даўжынёю ў 10 метраў.

Аднак, каб не мець непрыемнасцей, неабходна загадзя найпазней да 10 мая атрымаць у гміне ці ў адпаведным іншым органе дзяржаўнай адміністрацыі **пісьмовы** дазвол на вырошчванне маку. Каб атрымаць гэтакі дазвол, трэба забавязацца, што ўвосені дакладна, што да сцяблінкі, будзе спалена макавая салома.

Кантроль за выкананнем усіх гэтых правіл па вырошчванню маку будуць весці ў кожнай вёсцы спецыяльныя камісіі і ўпаўнаважаныя кантралёры, а таксама і солтысы вёсак, якія абавязаны неадкладна паведамляць у гмінную адміністрацыю аб плантацыях гэтай прыгожай і карыснай расліны.

Мак, які вырошчваецца без дазволу, будзе неадкладна знішчацца. Рабіць гэта будуць без аніякай кампенсацыі для ўласніка поля, ды яшчэ наадварот — за яго кошт. Гэта абазначае, што трэба самому знішчаць нават мак-самасейку, бо інакш можна спадзявацца:

— турэмнага зняволення да двух гадоў;

— або часовага абмежавання свабоды, што, перакладаючы на звычайную мову, абазначае прымусовае накіраванне на бясплатную працу, напрыклад, пры ачыстцы вуліц, уборцы смецця і т.п.;

— і — у найлепшым выпадку — грашовае пакаранне, найменш у адну тысячу зл.

Бачыце, якой бяды натварылі нам наркаманы! На жаль, хваля наркаманіі дакацілася ўжо і да нашых старонак. „Галодныя“ наркаманы, а яшчэ часцей аматары „макавага“ заробку пад канец лета шныраць табунамі па палях у пошуках свайго жніва.

І таму неабходна так сурова сачыць за вырошчваннем маку, і таму ўсе гэтыя абмежаванні. У 1985 годзе пракуратура аднатавала ў Беластоцкім ваяводстве звыш ста спраў, прычынай якіх было незарэгістрыраванае вырошчванне маку.

— Суровых пакаранняў у мінулым годзе мы яшчэ не патрабавалі, — гаварыў журналістам пракурор М. Лахоўскі, — бо гэта быў першы год дзейснага прымянення сеймавай пастановы аб наркаманіі, а выканаўчыя загады Рады Міністраў былі апублікаваны ў „Дзённіку пастаноў“ толькі 9 кастрычніка 1985 года. Па гэтай прычыне абмяжоўваліся мы найчасцей грашовымі штрафамі. Аднак у гэтым годзе ўжо такога памілавання для нікога не будзе. Наркаманія стала ў нас настолькі грозным грамадскай з'явай, асабліва сярод моладзі, што неабходна падрэзаць ёй карэнні ў самым пачатку. Значыць, пазбавіць наркаманаў і гандляроў макавай саломы як сыравіны для вырабу смерцяноснага „кампоту“.

Значыць, асцярожна з макам!

**В. Р.**

**Мал. У. Петрука**



# „Прыгранічны“

Заехаў я на станцыю Чаромха. Службовыя справы ўладзіў хутка і застаўся яшчэ час да поезда на 12.45. Зайшоў у рэстаран „Прыгранічны“, была гадзіна 10.30. Заказаў чай, „меленую“ з хлебам і чакаю. Прайшло 45 мінут. Думаю: „Хіба ж тая вада яшчэ не закіпела?“ Звяртаюся да афіцыянта, прашу падаць мой заказ і чую ў адказ: „У мяне няма часу падаваць чай, бачыш, што мушу падаваць піва, а некаторых і з залы выганяць, бо п'яныя ўжо і верашчаць!“.

Нарэшце ўсё ж атрымаў я чай (быў ледзь цёплы) і халодную катлету. З'еў і... мяне не трэба было гнаць з залы, бо я сам як мог хутчэй пабег у туалет. Ці чай не закіпеў, ці катлета ўстарэла... Хто яго ведае!

Але ёсць у мяне пытанне. Ці санэпід ведае пра чаромхаўскі „Прыгранічны“ і калі ён там быў?

Таксама запрашаю ў гэты рэстаран прэзаса ГС у Кляшчэлях але не за буфет, куды іх з мілай усмешкай вядуць афіцыянткі, а на агульную залу, і там прашу паспрабаваць спецыяльнасці кухні рэстарана „Прыгранічны“. І падыхаць яго атмасферай.

**Пушча**

# Саюз вясковай моладзі

У горадзе і гміне Бельск дзейнічае цяпер 13 гурткоў ЗМВ з 525 членамі. Праца арганізацыі накіравана на вёску, сельскую гаспадарку. Праводзяць яны розныя сустрэчы, гутаркі на тэму сельскай гаспадаркі, культуры на вёсцы, працы моладзі ў сваім асяроддзі, турызму і спорту вясковай моладзі.

Найбольш актыўныя гурткі ЗМВ у Дабрамілі (зрабілі лаўкі на прыпынку ПКС), Скрыпках Малых (адрамантавалі дарогу), Рудоўтах (пачалі рамонт сельскага клуба і ўпарадкаванне спартыўнай пляцоўкі), у Аўгустове (абгарадзілі клуб „Рух“ плотам).

**А. Гаўрылюк**




# БАТРАЦКІ ЛЁС

Пад восень 1921 года вярнуліся яны на бацькаўшчыну, у свае родныя Рагачы, якія зараз знаходзяцца ў Мілейчыцкай гміне. Старэнькая хатка ды іншыя гаспадарчыя будынкі, якія Мірон Акоцюк пакінуў тут летам 1915 года, уцякаючы ад немцаў, на шчасце, захаваліся. Хата стаяла ля вуліцы, між хлявом і клуняй, усё пад адным дахам. Хапіла крыху адрамантаваць гэты дах і зашкліць вокны, каб можна было неяк схавацца ад холаду, ветру і дажджу.

Мірон вярнуўся без жонкі і дачкі. Яны асталіся ў зямлі над ракою Камай, асталіся там назаўсёды, скошаныя хваробай і голадам. На радзіму вярнуўся бацька з сынамі: Антонам, якому ў 1921 годзе пайшоў шаснаццаты год, і яшчэ малодшым Несцерам. Прыехалі, практычна, без нічога, з голымі рукамі і тугою па сваёй зямельцы, што зарасла ўжо хмызняком. Не давала яна надзеі на добры ўраджай.

А тут ішла ўжо зіма. Нарыхтаваў Мірон Акоцюк сабе замашысты цэп, з моцным дубовым біяком, ды пайшоў па вёсках прасіцца ў батракі. У памочнікі ўзяў сабе сына Антона, гэтага старэйшага, шаснаццацігадовага. Несцерка астаўся сам у Рагачах, каб дагледзець хатні дабытак. Ды атрымаў яшчэ загад, каб дроў на зіму нанасіць з недалёкага лесу, найлепш смалістых, сухіх сасновых галінак. Каня не было. Давялося яму гэтыя дровы цягаць на плячах. А бацька з сынам Антонам павандравалі аж за Мілейчыцы, дзе між рэчкамі Нурэц і Нурчык знаходзяцца пераважна каталіцкія вёскі даўнейшай засцянковай шляхты, якая цэлую нямецкую акупацыю пражыла на месцы. І толькі ў гэтых вёсках — у Паканеве, Сабятыне, Сасінах, Снежках, Валках, Вандаліне ці ў Выганове — можна было спадзявацца на нейкі заробак, цёплую страву і дах над галавой. Плацілі пуд жыта за цэлы дзень малацьбы цэпам. Дзень пачынаўся на досвітку, а канчаўся далёка пасля захаду сонца. І яны цешыліся, бо заробленае збожжа давала надзею, што з горам-бядою неяк дацягнуць да вясны, а на вясну — абсеюць уласную „васьмуху“ аўсом ды грэчкай, а можа яшчэ і крыху ячменю ды проса развядуць. ...І так дачакаюцца ўласнага кавалка хлеба. Дамоў вярталіся толькі на святы і дзеля таго, каб наведаць адзінокага Несцера ды прынесці на ўласных плячах запрацаванае дабро. Найчасцей было гэта жыта, авёс ці ячмень, залежна ад таго, што даводзілася ім малаціць. Здараліся аднак болей спагадлівыя гаспадары, якія да асноўнай зарплаты ад шчырага сэрца да-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Прыйшоў да мяне Ягорка — мы з ім вучымся ў адным класе. Зайшоў проста так: можа, куды-небудзь пойдзем. Але пачаўся дождж, і мы засталіся ў хаце. Пагулялі ў шашкі, паглядзелі па тэлевізары фільм. І Ягорка ўстаў.

— Дадому, — кажа, — трэба, засядзеўся я ў цябе.

— Ну што ты, яшчэ рана, толькі другая гадзіна.

— Гэта ў цябе будзільнік няправільны, таму і рана, — смяецца Ягорка.

Падышоў я да будзільніка, а ён як рыба маўчыць. Вы ўяўляеце, па гэтым будзільніку мама і тата да працы ходзяць. А цяпер спазніцца могуць. Скажуць, што я зноў у ім грэбаўся. Было ўжо такое.

Патрос я будзільнік — ён пайшоў. Але ненадоўга, зноў спыніўся. Што рабіць?

Гляджу я на Ягорку, а ён на мяне.

— Там нешта чэпляецца, — кажа ён, і так упэўнена, што нельга было з ім не згадзіцца.

Я тут жа выкруціў вінт, зняў пакрыўку. Падхапіў іголкай маятнік, а ён туды-сюды павярнуўся і спыніўся. Падкруцілі мы з Ягоркам яшчэ адзін вінцік, а маятнік — бац! — і павіс, на валаску боўтаецца. Вось табе і на!

— Давай я ўстаўлю, — адсоўвае мяне Ягорка.

— Пачакай, —' кажу, — сам спрабую.

Узяў маленькімі ножнічкамі маятнік і пачаў устаўляць яго. А ён ніяк не стае на месца.

Паспрабаваў і Ягорка — таксама нічога не выйшла.

— Можа, — кажу, — паднімем верхнюю пласцінку, тады будзе выгодней.

Пачалі адкручваць шрубы. Калі адкруцілі апошнюю, пружына — трах! — і выскачыла. Ад нечаканасці я ледзь будзільнік з рук не выпусціў. Ягорка маўчыць, і я маўчу. Ясна, паламалі будзільнік...

Думалі мы, думалі, што рабіць, і нарэшце прыдумалі: пойдзем да гадзіннікавага майстра.

Загарнулі мы будзільнік з усімі шрубкамі і вінцікамі ў паперу і хутчэй на вуліцу. Прыбеглі да майстра, а там сядзіць тоўсты дзядзька такі і корпаецца ў залатым гадзінніку.

Алег Буцэнь

## Будзільнік

— Што ў вас, хлопцы? — пытаецца.

— Будзільнік, — кажу, — чамусьці спыніўся.

— Сам спыніўся? — глядзіць на нас адным вокам, таму што ў другім павелічальнае шкло.

Я адчуў, як у мяне пачырванелі вушы. Маўчу. А Ягорка стаіць, свае запыленыя чаравікі разглядае. Яму што? У яго тата пытацца не будзе...

Пакруціў у руках майстар наш будзільнік, зазірнуў у сярэдзіну і кажа:

— Добра, прыдзіце заўтра. Напраўлю.

— А... а сёння не можна? — пытаецца Ягорка. — Разумееце, нам вельмі трэба, каб сёння. Абавязкова!

Я пацвердзіў і заківаў галавой, а сам падумаў: „Усё ж Ягорка непакоіцца аб сябру!"

— Сёння не магу, — адказаў майстар і адклаў наш будзільнік набок. — Работы шмат.

— Дзядзечка! — нечакана вырвалася ў мяне ды так піскліва, што ўспамінаць не хочацца. У горле перасохла, язык зрабіўся цяжкі. — Дзядзечка, а можа зробіце? Мы заплацім, колькі будзе трэба. Толькі напраўце. Калі ласка, нам да вечара трэба.

Мабыць, расчуліў я майстра, бо згадзіўся.

— Ну добра, — кажа. — Сто злотых будзе каштаваць.

Уцешыліся мы з Ягоркам і тут жа падумалі: а грошай жа ў нас няма! Я кажу Ягорку, а сам падміргваю:

— Ты бяжы па грошы, а я тут пастаю.

Ягорка, вядома, адразу мяне зразумеў, і ў тую ж мінуту яго ўжо не было ў майстэрні. Сеў я на крэсла і гляджу, як майстар разбірае наш будзільнік. Ён выняў з будзільніка ўсе калёсікі, пачысціў іх шчоткай, потым пасмараваў. Я ўвесь час хваляваўся, ці не згубілі мы чаго. Але майстар маўчаў, і я паступова супакоіўся.

Не ведаю, колькі часу мінула, але калі прыбег, засопшыся, Ягорка, будзільнік быў ужо напраўлены. Мы разлічыліся з майстрам і выйшлі на вуліцу шчаслівыя, быццам выйгралі ў тота-лотка.

— Дзе ты грошы дастаў? — спытаў я ў Ягоркі.

А ён выразна толькі таго і чакаў, калі я спытаю. Гэта відаць

(Працяг на стар. 10)



Удзельніцы сёлетняга дэкламатарскага конкурсу Ірынка Сідарук са сваёй настаўніцай Галенай Тапалянскай з Трасцянкі і настаўніца Ала Якубоўская з выхаванкай Еляй Гаралеўскай з Нарвы.

Фота Я. Чэрнякевіч.

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Аляксандр Росін

## СЛОНІК ХАБАТОК

### КАЗКА

Жыў на свеце слонік Хабаток. Аднойчы пайшоў ён у лес і заблудзіўся.

Спачатку нават не ведаў, што заблудзіўся. Але прагаладаўся, вырашыў вярнуцца да мамы і зразумеў, што не ведае дарогі.

— Скажыце, калі ласка, ці не сустракалі вы маю маму? — спытаў Хабаток у малпы.

— Тваю маму? — здзівілася малпа. — Навошта яна табе? Ты вунь які вялікі! Хочаш, навучу цябе скакаць па дрэвах?

Паспрабаваў Хабаток узлезці на дрэва, але галіна пад ім зламалася, ён упаў і балюча выцяўся.

— Скажыце, калі ласка, ці не сустракалі вы маю маму? — спытаў Хабаток ва ўдава.

— Тваю маму? — здзівіўся ўдаў. — Я і цябе ўпершыню бачу. Хочаш, навучу цябе поўзаць па зямлі і лавіць трусікаў.

Паспрабаваў Хабаток поўзаць, ды пакалоў калючкамі ўвесь жывот.

— Скажыце, калі ласка, ці не сустракалі вы маю маму? — спытаў Хабаток у бегемота.

— Тваю маму? — здзівіўся бегемот. — Не, у нашым балоце гэтакіх не бывае. Ану, лезь сюды, паплаваем разам.

— Прабачце, але я не купаюся ў бруднай вадзе, — сказаў Хабаток.

— Скажыце, калі ласка, ці не сустракалі вы маю маму? — спытаў Хабаток у арла.

— Тваю маму? — здзівіўся арол. — Калі б яна ўмела лётаць, я напэўна сустрэў бы яе ў небе. Хочаш, мы ўздымемся высока-высока і адтуль паглядзім?

— Я з прыемнасцю паляцеў бы разам з вамі, — сказаў Хабаток, — але не ўмею лётаць.

— Скажыце, калі ласка, ці не сустракалі вы маю маму? — спытаў Хабаток у жырафы.

— Тваю маму? — здзівілася жырафа. — Я зверху шмат бачу: і траву, і лісце, і бананы. Вось яны, побач. Выцягвай шыю і частуйся.

— Дзякуй, але шыя ў мяне кароткая, — сказаў Хабаток. — Я не дацягнуся.

— Скажыце, калі ласка, ці не сустракалі вы маю маму? — спытаў Хабаток у трох папугаяў.

— Нам няма калі гаварыць з табою! — закрычаў першы папугай.

— Мы вельмі спяшаемся! — закрычаў другі папугай.

— Так! Так! Так! — закрычаў трэці папугай. — Мы знайшлі гару, якая сама ходзіць туды-сюды!

— Гара ходзіць? — здзівіўся Хабаток.

— Вунь яна! — закрычалі папугаі.

**Паглядзеў слонік на гару і аж падскочыў ад радасці:**

**— Ура! Гэта ж мая мама!**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ЗЯРНЯТКІ

ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА

Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

## КАРАГОД

Калі б усе дзяўчаткі свету
За рукі ўзяцца захацелі —
Аперазаў бы мора гэты
Вялікі, добры карагод!
А што, як сёння ў маракі
Усе чыста пойдуць хлапчукі?
На хвалях
мост прыгожа з барак
Збудуе дружна той народ!
І маем расквітнее студзень,
Калі усе на свеце людзі
Працягнуць рукі адзін другому
На сотні год,
Мільёны год!

**Поль Фор**

*1. Пра што марыць французскі паэт у сваім вершы?*

*2. Растлумачце апошнія пяць радкоў верша, як вы іх разумееце?*

*3. Ад назоўнікаў утварыце дзеясловы. Пастаўце іх у цяперашнім часе адзіночнага ліку і ў множным ліку.*

Узор. Збіранне — збіраю, збіраем.

Уваход, знаходжанне, пачатак, пад'езд, закуп, корм, каса, малацьба, стральба, купанне, ігра, думанне, назіранне.

**З вялікай літары пішам:**

**1. Імёны, імёны па бацьку, прозвішчы і ганаровыя званні людзей:** Герой Савецкага Саюза лётчык-касманаўт Пётр Ільіч Клімук, Будаўнік Народнай Польшчы Францішак Пятроўскі.

**2. Назвы дзяржаў, гарадоў, вёсак, вуліц, плошчаў, гор, рэк, азёр, урочышчаў:** Народная Польшча, Савецкая Беларусь, горад Беласток, вёска Дубяжын, вуліца Міцкевіча, плошча Вызвалення, горы Татры, рака Нарва, возера Белае, урочышча Вужовы масток.

3. **Назвы дзяржаўных устаноў, кніг, фільмаў:** Міністэрства асветы і выхавання, аповесць „Палескія рабінзоны", фільм „Дзеці партызана".

*4. Дапішыце сказы, устаўляючы патрэбныя словы.*

Завуць мяне ... ... ... (імя, імя па бацьку, прозвішча). Майго бацьку завуць ... ... ... (імя, імя па бацьку, прозвішча). Маю маці завуць ... ... ... (імя, імя па бацьку, прозвішча). Я жыву ў ... (назва вёскі або горада) ... (ваяводства). Я вучуся ў трэцім класе ... (назва школы).

*5. Спішыце ў алфавітным парадку назвы рэк Беласточчыны.*

Нарва, Буг, Нурэц, Белая, Нурчык, Нараўка, Супрасль, Бебжа, Плоская, Сакалда, Сідра, Арлянка, Лясная, Свіслач, Локніца.




* * *

Гром бывае чутны не далей як на 25 кіламетраў.

* * *

Самае ветранае месца на Зямлі — Зямля Вікторыі ў Антарктыдзе. Хуткасць ветру тут дасягае 215 кіламетраў у гадзіну.

* * *

Найбольш ападкаў у СССР — у Батумі — 2,7 метра ў год.

* * *

Адзін час лічылася, што самае гарачае месца на Зямлі — Даліна Смерці. Але ў верасні 1922 года ў Лівійскай пустыні, непадалёку ад горада Трыпалі, была зарэгістравана тэмпература 57,8 градуса С.

* * *

Штогод з паверхні Сусветнага акіяна выпарваецца 448 тысяч куб. кіламетраў вады, або пласт вады таўшчынёй 1,2 м, а з паверхні сушы — 71 тысяча куб. кіламетраў вады. Такім чынам, з усёй паверхні зямнога шара выпарваецца 519 тысяч кубічных кіламетраў вады. Такая ж колькасць яе выпадае ў выглядзе дажджу і снегу.

(Працяг са стар. 9)

# БУДЗІЛЬНІК

было па тым, як яму хацелася ўсё расказаць.

— Пазычыў! Не здагадаешся, у каго! — сказаў ён, хоць я і не збіраўся адгадваць.

— Пабег я, значыцца, дадому, а там нікога няма. Я да суседзяў — там таксама.

— Карацей расказвай.

— Пачакай, не спяшайся, — а сам зноў цягне. — Пачаў я тады пасярод вуліцы разглядацца і не ведаю, да каго падысці. А тут якраз паявілася бабуля Тэкля. Я да яе. Так, кажу, і так, пазычце, кажу, сто злотых. Пайшла яна да сябе ў хату і вынесла. Толькі спытала: „Не на папяросы?" Я ёй кажу, што не, на папяросы так многа не трэба. На добрую справу. Нават чэснае слова давялося даць.

**Працяг у наступным нумары**

# ВОЖЫКІ

Ад нашых Рыбакоў, на паўднёвы ўсход, даліна ракі Нарвы як бы заслана зялёным дыванам, а берагі ракі нібы абведзены цёмнай і ясна-зялёнай лямоўкай — кустамі лазы і ракіты. За ракой, ля вёскі Лука, што стаіць на ўзгорку, раскінулася наша сенажаць — урочышча Вераб'ёўка. Там ёсць грудочак, а вакол яго паўкругам параслі цёмныя кусты каліны, жасміну, арабіны, альшыны і вярбы. Каля гэтага грудочка, ад старога рэчышча ракі засталася заточка з вадой, нібы азярына. Побач гэтага азярца стаяць дзве разложыстыя вербы. Яны нахіліліся праз азярцо адна да другой, нібы перагаворваюцца. У гэтых вербах і кустах водзіцца шмат птушак, найбольш верабейкаў, таму гэтая сенажаць і атрымала назву Вераб'ёўкі.

Гэтую прыгожую сенажаць спадабалі не толькі птушкі, але і вожыкі. Там пасяліліся вожык з вожычыхаю.

Але што ж! Гэтая механізацыя! Яна, — як вайна, для звяроў. Аднойчы прыехала ратацыйная касілка. Абляцела пару разоў — і вось бачым, ляжыць зарэзаны вожык, а каля яго і другі. Вельмі нам было шкада вожыкаў.

Праз два дні мы пайшлі грэбсці сена, што тады было накошана, і ўбачылі ў ямачцы трох малых вожыкаў, як тры малыя кулачкі, прытуленыя адзін да аднаго.

Мой Кастусь пакінуў грэбсці сена, узяў вожыкаў і панёс іх дадому. А дома былі яго дзяўчаткі, мае ўнучкі Ася і Бася. Яны зараз жа налілі вожычкам у талерку малака. Вожыкі так ахвотна елі, аж за бераг талеркі зубкамі хапалі. Калі вожычкі напіліся малака, дзяўчаткі мякка паслалі ў карабку з картону і занеслі вожыкаў у гародчык, дзе былі абгароджаны парэчкі і трускалкі.

Калі дзяўчаткі панеслі други раз вожычкам малако, дык ужо большанькага вожычка не было. Ён быў дужэйшы і адважнейшы. Хадзіў у разведку. Пасля вярнуўся і паклікаў сваіх брацікаў у спакайнейшае месца. Гародчык каля дарогі здаваўся ім мала спакойным месцам. Дзяўчаткам шкада было вожычкаў, але яны ведалі, што вожычкам нічога кепскага не сталася, яны пайшлі па сваёй ахвоце.

Мінула некалькі тыдняў. Аднойчы жанчыны, седзячы на лаўцы каля хаты, убачылі, як тры ўжо падрослыя вожыкі пераходзілі вуліцу. Ішлі ў той бок, дзе былі клуні. Праўдападобна, гэта былі тыя самыя вожыкі.

Гэтае здарэнне праўдзівае. Так здарылася ў чэрвені 1984 года ў нашай вёсцы.

**Хведар Хлябіч**

# ПАЗНАЁМІМСЯ

## ПАВАЖАНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ Ў ПОЛЬШЧЫ!

Да вас звяртаюцца вучні 4 „Б" класа сярэдняй школы № 1 горада Ізяслава Хмяльніцкай вобласці Украіны. Мы перапісваемся з дзецьмі з Беларусі, Літвы, Латвіі і Грузіі. Наш класны кіраўнік Пятрусь Міхайлавіч Капчык родам з Беларусі, вучыць нас у пазалекцыйны час беларускай мовы. Усе мы, 20 хлопчыкаў і дзяўчынак, чытаем на беларускай мове газету з Мінска „Піянер Беларусі", часопісы „Вясёлка" і „Бярозка" і кнігі беларускіх пісьменнікаў, якія з Мінска прывозіць наш настаўнік. Наша родная ўкраінская мова падобна да беларускай, таму нам лёгка яе вучыць, чытаць на ёй і нават пісаць пісьмы.

Мы хацелі б з вамі пасябраваць, перапісвацца. Нам па 10-11 год. А вось нашыя імёны: Юра Цысарук, Ігар Панічаў, Таня Кандрашова, Аксана Цімашук, Саша Петрашчук, Алег Хамяк, Алег Калеснікаў, Вера Сундзіна, Жана Хеленюк, Надзя Пархоменка, Коля Гук, Саша Крыварук, Іра Сакалюк, Віталь Нягода, Лена Хамянчук, Руслана Ціпарчук, Саша Краўчук, Алёша Колабаў, Паўло Заіка, Алена Сахнюк. Пішыце па адрасу: СССР, Украинская ССР, Хмельницкая обл., 281200 Изяслав, Средняя школа № 1, 4 „Б" класс. Чакаем пісем.

**З павежаннем піянеры 4 „Б" класа з Украіны.**

* * *

СССР, 344111, г. Ростов-на-Дону, пр. 40-летия Победы. 75/1, кв. 52. Матвиенко Лиле. 5 клас.

* * *

Мажанна Зенюк, вучаніца 4 класа школы ў Нурцы, в. Быстрэ 38, пошта 17-113 Снежкі, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Аня Юрчук, вучаніца 4 класа школы ў Нурцы, в. Нурэц 36, пошта 17-112 Нурэц, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Гражына Дмітрук, вучаніца 4 класа школы ў Нурцы, в. Малочкі, 70, пошта 17-113 Снежкі, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Бажэна Гапонюк, вучаніца 4 класа школы ў Нурцы, в. Малочкі 84, пошта 17-113 Снежкі, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Ёля Маркевіч, вучаніца 4 класа школы ў Нурцы, в. Малочкі 36, пошта 17-113 Снежкі, Беластоцкае ваяводства.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 33, кв. 24. Оля Трацэўская, 3 клас.

* * *

БССР, 220036 г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 4. Ігар Данілюк, 4 клас.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім-2, вул. Гагарына, 114. Лена Буткевіч, 7 клас.

* * *

СССР, 344080. г. Ростов-на-Дону. 2 пос. Орджоникидзе, ул. Российская, 28а. кв. 98. Кириченко Юле. 10 год.

## АДГАДАНКА




Які ключ пасуе да чорнай дзіркі, намаляванай у сярэдзіне?



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

3 чаго смяюцца суседзі

## ЦЯПА ЗАКАХАЛАСЯ

Раней казалі: Цяпа такая. Цяпа сякая... Балбатуха! Верхаглядка! Хіба возьме хто такую замуж!

Ха!.. Пасмяёмся з плеткароў! Бо Цяпа цяпер — дзеўка во! Прычоска — першакласная. Вочы — серабром падведзены. У пальчыках — цыгарэта „Бонд". Кофтачка імпартная. Джынсы — фірменныя. А фігурка — з „Тысячы і адной ночы".

Зараз у Цяпы кавалераў — няма адбою! Ды яна прыкіпела сэрцам да аднаго даўгавязага малайца з рыжымі вусікамі — вадою не разліць. І Цяпа хоча, каб пра яе шчасце ведаў увесь свет.

Вось яна з абраннікам шпацыруе па тратуары. Ён ашчарэпіў сваімі граблямі яе плечы — ідзе, усміхаецца. На аўтобусным прыпынку спыніліся. Абняліся і пацалаваліся. Ён — ёй:

— Цяп! Пахрамаем у дыска?

Яна ў адказ:

— Жалезна!

У перакладзе на звычайную мову гэта азначае, што ён прапанаваў пайсці ў дыскатэку, а яна згадзілася.

Пайшлі. У аўтобусе зноў пацалаваліся. На гэты раз Цяпа паклала галаву на вельветавы пінжак партнёра, а правую руку — на тое месца, дзе на заклёпках прымацавана марка фірмы „Левіс". Пасалавелі і стаяць. А што будзе ў той дыскатэцы?..

Такім чынам Цяпіна шчасце назіралі сотні людзей.

Аўдзей Шышшына



# НІЎКА



## ЧУТКІ

Маці прыйшла наведаць сваю замужнюю дачку.

— Дзіця маё, мне здаецца, што ты дрэнна жывеш з мужам. Суседзі гаварылі, што ў мінулым тыдні ў вас была вялікая сварка...

— Не верце, мама. Чаго толькі людзі не начапуць. Мы з мужам ужо два тыдні зусім не размаўляем.

## ПРЭТЭНДЭНТ

— Дробны почырк — азнака геніяльнасці, — аднзначыў студэнтам выкладчык.

Потым, глянуўшы незнарок на сшытак аднаго са студэнтаў, працягнуў:

— Не спяшайцеся, Свішч, яна так хутка не прыходзіць.

## РАЗМОВА НА СТАДЫЁНЕ

Пасля заканчэння футбольнага матча да дзядулі падыходзяць двое хлапчукоў:

— Дзед, а што будзе, калі футбольная каманда ў першай лізе зойме апошняе месца?

— У другой лізе будзе гуляць.

— А калі і ў другой лізе зойме апошняе месца?

— У трэцяй лізе будзе гуляць.

— А як і там будзе апошняй, то што?

— Што-што... Каровы будуць хлопцы пасвіць...

## ЯШЧЭ НЕ ПАРА

Сустрэў сусед суседа і пытае:

— Калі думаеш вярнуць мне доўг?

— Яшчэ не думаў.



Ці можна быць мяккацелым і цвёрдалобым адначасова?

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— У нас у бальніцы новыя правілы, — папярэджвае галоўны лекар пацыента. — Адразу пасля аперацыі вы ўстаеце са стала і самі ідзеце па калідоры ў палату, як бы дрэнна вам ні было. На наступны дзень павінны прайсці пяць разоў навокал бальніцы, а на трэці дзень прабегчы дзесяць міль. Пытанні ёсць?

— А ў час аперацыі можна трошкі паляжаць?

☆

Гаспадыня, наймаючы новую пакаёўку, пытае:

— Скажыце, мілая, а вы любіце папугаяў?

— Не хвалюйцеся, мадам, я ем усё.

☆

— Масье Дзюпон, вы абвінавачваецеся ў нападзе на банк. Прызнаеце сябе вінаватым?

— Не, пан суддзя. У мяне алібі. У час таго нападу я рабаваў ювелірны магазін на вуліцы Манпарнас.

## ЖУЧКА І СВІННЯ

Ля панадворку лужына стаяла,
Яна жывёлам вельмі замінала.
— Тут брудна, сыра і
нязтульна, —
Сказала Жучка. — Мы агулам
Пясок насіць давайце будзем,
І ў момант лужыну забудзім.
Усе згадзіліся:
— Рыдлёўку — мне!
— І — мне!
Адна Свіння сказала раптам:
— Не!
Вы што бязглуздзіцу пляцеце —
Без лужыны ж няма жыцця
на свеце.

Уладзімір Мацвеенка

З „Весніка Задрыпонії"

## НАВІНЫ ГАНДЛЮ

У спажыўгандлі г. Ачуцінава з'явілася новая форма гандлёвай паслугі: да лыжкі дзёгцю бясплатна прыдаецца бочка мёду.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

...язык без касцей на 90 працэнтаў складаецца са стапрацэнтнай вады.



— Якое гэта ўсё ж задавальненне адпачываць на вадзе!

З чаго смяюцца суседзі.



— Вось мне мужчына! Такі ўтрымаць не мог.



# Курёзы

## ВЫБУХ ІНІЦЫЯТЫВЫ

У 1976 годзе наказаў доўга жыць амерыканскі мільярдэр Говард Х'юз. Наследнікаў ён не пакінуў; і завяшчання быццам бы не паспеў напісаць. Ды паколькі ў ЗША ініцыятыўных людзей не бракуе, на спадчыну Х'юза з'явілася адразу некалькі прэтэндэнтаў, і ўсе яны мелі „адпаведныя дакументы". А за восем год ад той пары, як мільярдэр адышоў да прабацькоў сваіх, судовым уладам было пададзена пяцьдзесят „цалкам верагодных" яго завяшчанняў.

## ВЫШЭЙШЫЯ СФЕРЫ

Пакуль не спрабавала свае акцёрскія здольнасці, а, як і Соф'я Габсбург, стала манекеншчыцай і юная дачка правіцеля княства Манака Стэфанія. Яна рэкламуе ўсё — ад спартыўных касцюмаў і жаночых купальнікаў да касметыкі і напаўдарагіх ювелірных упрыгожанняў. Гэта дае ёй немалы даход. Апрача таго, рэдакцыі многіх папулярных часопісаў плацяць ёй за яе згоду сфатаграфавацца для друку да 10 тысяч долараў.




Калі прабіваеш лобам сценку, не варта шкадаваць цэглаў.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020